

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова

№ 20(30) • 3—9 ЛІПЕНЯ 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)


## *Поступ тыдня*

Закончыла сваю работу чацвёртая сесія Вярхоўнага Савета рэспублікі. Ею прынята больш за восемдзесят заканадаўчых актаў. На апошніх яе пасяджэннях найбольшыя спрэчкі выклікаў праект закона аб увядзенні прэзідэнцтва. І толькі, відаць, у Беларусі маглі весціся пры гэтым дыскусіі наконт абавязковага ведання кіраўніком дзяржавы беларускай мовы. Як і трэба было чакаць, закончыліся яны тут безвынікова.

Мы прывыклі, што міжнародную палітыку вырашае ў нас Масква. А як быць з аб'яўленым нядаўна суверэнітэтам саюзных рэспублік? У пачатку года знойдзена новая форма кіравання — створаны Савет міністраў замежных спраў Саюза ССР. Нядаўна ў Мінску міністры сабраліся на чарговую нараду. На гэты раз галоўнай тэмай размовы стала аб'яднанне намаганняў па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай трагедыі.

У друку нярэдка можна сустрэць выказванні вядомых вучоных пра тое, што, моў, перакана́ўчых звестак аб уздзеянні радыяцыі на чалавека няма. І вось нядаўна ў праграме «Час» Цэнтральнае тэлебачанне паказала ўсёй краіне мінскую гематалагічную бальніцу, дзе лечацца дзеці з забруджаных зямель. Неабвержныя звесткі апублікаваны і беларускім вучоным М. А. Карталем: захворванне дзяцей з чарнобыльскай зоны ў некалькі разоў вышэй, чым у кантрольных групах і ў дарослых. А, галоўнае, гэтыя дзеці робяцца больш адчувальнымі да радыяцыі.

Некалькі рабочых з прамысловых прадпрыемстваў Оршы прынялі ўдзел у галадоўцы каля памяшкання гарвыканкома. Яны пратэставалі супраць звальнення іх з работы за актыўнасць пры правядзенні красавіцкай забастоўкі. Некаторыя з рабочых выязджалі нават ў Мінск, каб правесці мітынг насупраць Дома ўрада. Былыя забастоўшчыкі вымушаны дабівацца аднаўлення на рабоце, хоць пракурор горада і гарвыканком задаволілі іх патрабаванне, а адзін з арганізатараў забастоўкі Мікалай Разумаў абраны за гэты час старшынёй прафкома на сваім заводзе.

Нягледзячы на тое, што ўсе фармальнасці з афіцыйным прызнаннем Беларускага Народнага Фронту былі ўрэгуляваны яшчэ ў мінулым годзе, юрыдычна ён быў зарэгістраваны, па паведамленнях друку, толькі нядаўна.

Першага ліпеня будзе пазначана ў календарах як пачатак афіцыйнага беспрацоўя ў рэспубліцы. Цяпер, пэўна, ужо ніхто не сумняваецца: калі прыйшло беспрацоўе, значыць, прыйдзе і доўгачаканы рынак...

Нарэшце вынесены абвінаваўчыя прыгаворы па справе аб вядомых падзеях 7 лістапада мінулага года ў Мінску. Аднаго з асуджаных узялі пад стражу, некалькі чалавек далі падпіску аб нявыездзе.



## *Але!*

## Беларускія задачкі часоў галоснасці

***Доблесны генерал Усхопчык перабраўся са сталіцы Літвы ў Брэст.***

**ПЫТАННІ:**

**1. Герой крывавага бліцкрыга на Віленскі тэлецэнтр будзе там адразу нешта штурмаваць ці спачатку паспрабуе ў зацішным Мухаўцы адмыць свой мундзір?**

**2. Рыхтаваць для беларусаў «Комитет национального спасения»? І ў хуткім часе трэба чакаць ягоныя танкі ў Мінску?**

**3. А наогул: хто запрасіў генерала ў суверэнную Беларусь?**

## СТВАРАЕЦЦА ЦЕНЯВЫ КАБІНЕТ



Ценявы кабінет міністраў у рэспубліцы: прагноз ці рэальнасць? Адназначны адказ на гэта пытанне пакуль не дадзены. Але парламенцкая апазіцыя Беларускага Народнага Фронту, па словах галавы будучага ўрада, народнага дэпутата БССР Уладзіміра Заблоцкага, які, мяркуецца, зойме гэту пасаду, ужо шукае юрыдычныя асновы, якія дазволяць мець апазіцыйныя структуры ў рамках цяперашняй Канстытуцыі. Гэта нармальная з'ява ў грамадстве, якое набліжаецца да дэмакратыі, лічыць ён.

На здымку: у размове аб стварэнні магчымага ценявога кабінета удзельнічаюць У. Заблоцкі (злева), З. Пазняк, А. Трусаў (справа) і іншыя.

Фота У. МЯЖЭВІЧА. (БЕЛТА).

## *Адрадзіць зруйнаванае!*

***ШАНОЎНЫЯ СПАДАРЫ! Дасылаю Вам Зварот да праваслаўных вернікаў на беларускай мове, які распаўсюджваецца ў Віцебску. Прапаную надрукаваць з яго некалькі фрагментаў у «Нашым слове».***

***З павагай народны дэпутат БССР Алег Трусаў.***

«Паважаныя жыхары Зямлі Віцебскай! Вам, безумоўна, неабыякавы лёс культурнай спадчыны нашага роднага горада? Калі так, то запрашаем вас прыняць удзел у яго адраджэнні.

Вялікія незаменныя страты духоўных багаццяў народа звязаны са шматлікімі разбурэннямі, якія практычна сцерлі з зямлі наш старажытны горад. За гэтыя доўгія гады вынішчалася наша мінулае, гістарычная памяць. А, як вядома, без мінулага не можа быць будучага. Прыйшоў час вярнуцца да адраджэння разбуранага.

Для гэтага трэба пачаць аднаўленчыя работы менавіта з цэнтраў калісьці працвітаўшага ў Віцебску духоўнага жыцця — храмаў, школ, вучылішч.

Сярод іх такія, як:

1) Успенскі сабор і манастыр, 2) Благавешчанская царква, 3) Уваскрэсенская (рынасная) царква, 4) Капліца ў гонар 50-годдзя ўз'яднання уніятаў з праваслаўнымі, 5) Свята-Успенскі храм (у батанічным садзе), 6) Казанскі храм, 7) Царква Нараджэння Хрыстовага (была размешчана каля цяперашняга Дома піянераў), 8) Мікалаеўскі Кафедральны Сабор, 9) Свята-Духаўская царква (цяпер так званая «Ратуша»), 10) Сімяонаўская (Багаяўленская) царква, 11) Свята-Мікалаеўская (Бальтальённая) царква, 12) Крыжаваздзвіжанская царква і могільнік, 13) Спаская царква, 14) Іаана-Багаслоўская царква (Камуністычная вуліца), 15) Свята-Мікалаеўская царква і могільнік, 16) Уваскрэсенская-Заручаўская царква, 17) Свята-Ільінская царква, 18) Петрапаўлаўская царква, 19) Царква Нараджэння Прасвятой Багародзіцы, 20) Свята-Міхайлаўская царква і могільнік, 21) Свята-Троіцкая царква, 22) Царква Святога Лазара Праведнага, 23) Царква Божай Маці Усіх Смуткуючых, 24) Семінарская Свята-Ануфрыеўская царква ў Маркавым Свята-Троіцкім манастыры, 25) Свята-Троіцкая царква, 26) Царква Святога Мітрафана, 27) Свята-Пакроўскі храм (цяпер Казанскай іконы Божай Маці); вучылішчы, гімназіі і г.д.: 1) Духоўная семінарыя, 2) Аляксандраўская гімназія, 3) Духоўнае жаночае вучылішча, 4) Духоўная кансісторыя, 5) Духоўнае мужчынскае вучылішча.

Прапануецца вярнуць старыя назвы вуліцам.

Праваслаўныя суполкі, якія рэгіструюцца ў цяперашні час, не маюць неабходных сродкаў для правядзення рэстаўрацыйных работ.

Мы не разбуралі, а стваралі культурную спадчыну свайго народа, таму, зноў стваючы, звяртаемся да дзяржаўных арганізацый, заклікаем калектывы прадпрыемстваў, устаноў, кааператываў, грамадзян горада унесці пасільны ўклад у збор сродкаў на адраджэнне і рэстаўрацыю помнікаў архітэктуры XII—XIX стагоддзяў.

Жадаючыя могуць унесці свой пасільны ўклад, прадставіўшы, калі маюць, фотаздымкі, чарцяжы гістарычных помнікаў або царкоўныя рэчы, кнігі, іконы.

Епархіяльнае Упраўленне.

## Візіт патрыярха

Апошнім часам, калі паўстала пытанне падпісання Саюзнага дагавора, у Беларусь, магчыма, і не з гэтай нагоды, але зачасцілі знакамітыя госці з Масквы. Яшчэ не паспелі людзі забыцца пра візіт М. С. Гарбачова, як зусім нядаўна прыязджаў Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій ІІ. Свой візіт ён пачаў з наведання плошчы Перамогі і ўскладання вянка да абеліска. У той жа дзень правіў малебен у Крыжовай царкве, асвячонай у гонар Сабора Беларускіх святых, затым у Свята-Духавым кафедральным саборы адбылася ўсяночная служба. Наведаў Жыровіцкі манастыр, а ў ім духоўную семінарыю. У Мінску благаславіў месца будаўніцтва новага храма ў гонар іконы Божай Маці «Усіх журботных Радасць», а таксама адслужыў паніхіду ў Курапатах.

На завяршэнне візіту Патрыярх наведаў Гомель і Магілёў. І ўсюды Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія ІІ беларускі народ сустракаў з вялікай радасцю і павагай. Шкада, аднак, што Патрыярх ні разу не звярнуўся да жыхароў Беларусі на іх роднай мове. А ёсць жа добры прыклад: папа рымскі, сустракаючыся з беларускімі дзецьмі, якія прыехалі ў Італію, размаўляў з імі па-беларуску.

Віктар ШНІП.

*Пачатак у №№ 18, 19.*

У беларускіх словах ***ж*** і ***ш*** перад суфіксальным ***с*** рэкамендавалася не пісаць: *мноства, таварыства.*

Рэформа 1933 г. упарадкавала, паводле прапановы аўтараў праектаў 1930 і 1933 гг., ужыванне апострафа перад ётаванымі галоснымі для вызначэння раздзельнага вымаўлення зычнага з наступным галосным: *б'ю, з'еў, сям'я.* Выключэнне зроблена для ***л***, пасля якога трэба пісаць мяккі знак: *рэльеф, Васільеў.*

**9. ІНШАМОЎНЫЯ І ЗАПАЗЫЧАНЫЯ СЛОВЫ**

Трэці раздзел урадавай пастановы (пал. 9—16-е) рэгламентаваў адно з найбольш складаных і нераспрацаваных пытанняў робіць выключэнне, абумоўленае, відавочна, пазамоўнымі прычынамі, для дзесятка «інтэрнацыянальных рэвалюцыйных слоў», на якія аканне не павінна пашырацца: *рэволюцыя, совет, большэвік* і г. д. Гэтае выключэнне, як навукова неабгрунтаванае і практычна неапраўданае, пазней было ўсё ж адменена.

**11. ЦВЕРДАСЦЬ — МЯККАСЦЬ**

У сістэме зычных у іншамоўных словах рэформа закранула найперш перадачу на пісьме цвёрдасці — мяккасці. Згодна з пісьмовай традыцыяй 20-х гадоў, якая складвалася пераважна пад уплывам польскай мовы, цвёрдасць і мяккасць зычных перада-

*Л. СЯМЕШКА.*

# У 1933-м І ПАЗНЕЙ

беларускай арфаграфіі — **правапіс іншамоўных слоў.** Адсутнасць сталых пісьмовых традыцый і дэталёва распрацаваных правілаў, неакрэсленасць саміх прынцыпаў фанетычнага і арфаграфічнага асваення запазычанай лексікі вялі да значнага разнабою ў правапісе гэтых слоў.

Праблема уніфікацыі напісання іншамоўных слоў, у прыватнасці, пытанне аб перадачы на пісьме ненаціскнога вакалізму, актыўна абмяркоўвалася ў ходзе арфаграфічнай дыскусіі 20-х гадоў, а таксама на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе правапісу, дзе былі прадстаўлены розныя пункты погляду (ад прапановы пашырыць на запазычаныя словы прынцып поўнага акання і якання (пісаць *дапо, таляграма*) да прапановы захаваць у іншамоўных словах ненаціскныя ***о, е*** (***композыцыя, профэсор, соцыялізм***), як гэта склалася ўжо ў пісьмовай практыцы 20-х гадоў). У выніку канферэнцыя прыняла прапанову С. Некрашэвіча аб пашырэнні на запазычаныя словы толькі пераходу ***о ў а: прафесар, эканоміка, рэвалюцыя***, за выключэннем слоў тыпу ***радыё, бруто, какао***, дзе канцавыя ненаціскныя ***о(ё)*** захоўваюцца. Такую ж рэдакцыю гэтага правіла даюць і аўтары абодвух праектаў правапісу, але дапускаюць пры гэтым магчымасць ненаціскных ***о(ё)*** у словах малапашыраных: *рэномэ, блёкада.*

**10. АСОБНЫ СТАТУС ДЛЯ «ЗВЫШРЭВАЛЮЦЫЙНЫХ» СЛОЎ**

Урадавая пастанова 1933 г. таксама замацоўвае правапіс ненаціскных галосных у запазычаных словах паводле пастановы Акадэмічнай канферэнцыі, аднак

валася ў адпаведнасці з характарам іх у мове-крыніцы: ***мэтод, опозіцыя, філёзофія.*** Адарванасць ад законаў беларускага вымаўлення стварала часта арфаграфічную няўстойлівасць, непаслядоўнасць у афармленні гэтых слоў: *гэрб*, але: *геаграфія, газэта*, але: *экземпляр, кантынгент* і *канцінгент* і г. д. Таму вызначальным у рэфармаванні правапісу зычных было імкненне наблізіць яго да жывога беларускага вымаўлення, «па магчымасці сцерці розніцу паміж сваімі і чужымі словамі» (Праект 1933 г.). Разам з тым улічвалася таксама практыка афармлення гэтых слоў у рускай мове.

Так, новы правапіс замацоўваў перадачу «l» еўрапейскага ў іншамоўных словах «згодна традыцыйна пашыранага ў БССР вымаўлення, г. зн. пераважна цвёрда: *метал, алмаз, балкон.* Але ў тых выпадках, калі іншамоўнае «l» вымаўляецца мякка, пісаць ***л*** мяккае : *аўтамабіль, асфальт, люстра* і г. д.». Галосныя ***ы, э,*** згодна з урадавай пастановай, рэкамендуецца пісаць толькі пасля ***д, т*** і зацвярдзелых зычных, ва ўсіх астатніх выпадках пісаць ***і, е: фізіка, сістэма*** (замест ***фызыка, сыстэма*** і г. д.), але ***методыка, дырэктар.***

Новы правапіс ліквідаваў варыянтнае напісанне слоў іншамоўнага паходжання з гукам ***ф***, які перадаваўся як ***ф, п, хв, х, т.*** Літарай ***ф*** стала перадавацца грэч. ***фі*** і часткова ***фіта: форма, фабрыка, арыфметыка, арфаграфія***, але: ***тэатр, тэзіс, метад.*** Такія напісанні падтрымліваліся аналагічным афармленнем гэтых слоў у рускай мове.

Працяг будзе.

## ВАШ КО-КО Ў ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ

### *І рублём, і талонам*

Больш за ўсё на свеце я ненавіджу крытыканаў, якія абы плявузгаць, лаюць гаварышаў дэпутатаў з беларускага парламента. Я згодны з тым, што не кожнае пытанне таварышам выпадае вырашыць як след. Але ж і працуюць яны у вельмі цяжкіх умовах. Крытыка нам трэба было б ведаць, што самая цяжкая на свеце праца — сядзячая. І калі, прыкладам, дзень у дзень абмяркоўваць пытанне «Аб узмацненні адказнасці за парушэнні правілаў дарожнага руху ў Беларускай ССР», дык ад нармальнага чалавека спатрэбіцца шмат высілкаў, каб уседзець на месцы, ды яшчэ з гэтакім выразам на твары, нібыта вырашаецца ці не самае сур'ёзнае пытанне на Беларусі за апошнія 300 гадоў. Вы ўявіце, мае ненавідныя крытыканы, гэтакую непрыемную сітуацыю: хтосьці з вашых добрых знаёмых (тут я плюю праз левы плячук, ды божкаю) топіцца ў якім-небудзь віры, а вы, седзячы на беразе, замест таго каб зрабіць ласку небараку, падаўшы яму кіёк, улягаеце ў развагі, куды б гэта паскардзіцца на залішнюю нетаропкасць нашых выратавальнікаў на водах. Ды як бы паспрыяць на ўзмацненне іхняй адказнасці.

Дык ці лёгка вам будзе? Вядома ж, каб гэтак сядзець пры жывым тапельцы, трэба мець асаблівую мужнасць. Вельмі рэдкую. Як у нашых таварышаў дэпутатаў.

Балазе там, дзе гаворка ідзе пра ўзмацненне адказнасці, таварышы парламентарыі асабліва актыўнічаюць. А крытыканы з гэтага шчыруюць сабе. Я гэтым зласлівым дзядзькам і кабетам, што ніяк не ўцямяць, якая трагедыя адбываецца з нашым рахманым народам, даруйце за шчырасць, на пэўны тэрмін ваду ў водаправодзе адключаў бы. Дзеля іхняй жа карысці. Для ўзмацнення адказнасці за іхняе крытыканства. Тады яны, відаць, хутка заўважаць, што беларусы разбэсціліся ўшчэнт. Заробкі ім, бачыце, пападнімалі, а штрафы на ранейшым узроўні пакінулі. Несправядлівасць жахлівая.

Зразумела, і я маю невялікую незадаволенасць з таварышаў. Але ж не імкнуся, як некаторыя, усё на свеце збэсціць. Наадварот, разумею — да пла́чу цяжка парламентарыям, і нават канструктыўную прапазіцыю з вялікімі пакутамі нарадзіў: трэба не толькі штрафаваць на сотні ды тысячы, варта яшчэ падумаць, як бы гэта ў найбольш зацятых парушальнікаў талоны на мыла ці макароны забіраць. Каб больш адказнымі былі.

ВАШ КО-КО.

*Матэрыялы II з'езда ТБМ*

# ПАСТАНОВА

## Да пытання аб рэформе правапісу беларускай літаратурнай мовы

Адзначаючы, што рэформа правапісу 1933 года была гвалтоўнай, прывяла да істотнага збяднення беларускай літаратурнай мовы і мела палітычныя мэты, скіраваныя на выцясненне яе з грамадскага ўжытку ў Беларусі, з'езд рашуча выказваецца за неадкладнае вяртанне беларускай літаратурнай мове яе нацыянальнага аблічча. Разам з тым, высакароднай справе нацыянальнага Адраджэння Беларусі, пашырэння беларускай мовы і культуры ў рэспубліцы, еднасці беларусаў ва ўсім свеце не спрыяе наяўнасць у сучаснай беларускай літаратурнай мове дзвюх правапісных нормаў. Кансалідаваная, культурная нацыя мусіць мець адзіны правапіс.

З'езд даручае Камісіі Таварыства па ўдасканаленню правапісу да канца 1991 года выпрацаваць праект асноўных напрамкаў удасканалення правапісу беларускай літаратурнай мовы і вынесці яго на абмеркаванне грамадскасці.

15 чэрвеня 1991 г. г. Мінск.

# ПАСТАНОВА

## Дзеля ажыццяўлення Закона аб мовах

1. З'езд ухваляе дзейнасць органаў дзяржаўнага кіравання, народнай гаспадаркі, грамадскіх аб'яднанняў, усіх прыхільнікаў беларускага слова, скіраваную на ажыццяўленне Закона аб мовах у Беларускай ССР, і выказваецца за цеснае супрацоўніцтва з усімі зацікаўленымі ў адраджэнні беларускага слова дзяржаўнымі і грамадскімі структурамі, прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі рэспублікі і за аказанне ім у гэтай высакароднай дзейнасці ўсямернай падтрымкі з боку Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

У парадку заканадаўчай ініцыятывы з'езд выказвае прапанову Вярхоўнаму Савету і Савету Міністраў Беларускай ССР унесці змены ў структуры і рэгламент працы Саветаў народных дэпутатаў рэспублікі ўсіх узроўняў, накіраваныя на стварэнне пры іх паўнамоцных камісій з ліку народных дэпутатаў, актывістаў Таварыства беларускай мовы і іншых патрыятычных грамадска-культурных арганізацый, работнікаў нацыянальнай сістэмы адукацыі, культуры, прыхільнікаў беларускага слова,— дзеля забеспячэння і каардынацыі дзейнасці Саветаў, органаў выканаўчай і судовай улады, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый у межах адпаведнай тэрыторыі па ажыццяўленню Закона аб мовах у Беларускай ССР; мэтазгодна вызначыць у складзе Савета Міністраў Беларускай ССР, органаў мясцовага самакіравання асоб, адказных за ўсебаковае, своечасовае і ў шэрагу выпадкаў паскоранае ажыццяўленне Дзяржаўнай праграмы, зацверджанай урадам у адпаведнасці з Законам аб мовах у Беларускай ССР.

## Ахвяравалі на Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Спадар А. Сільвановіч (ЗША) — 50 долараў
Спадар М. Баяроўскі (Англія) — 200 рублёў
Спадар Сяргей Дзейка (Англія) — 200 рублёў
М. Невідомская (Мінск) — 35 рублёў
Г. Вярцінскі (Вінніцкая вобл.) — 20 рублёў
А. Пунцава (Мінск) — 20 рублёў
УМ-1 трэста-1 (Мінск) — камсамольскія ўзносы — 183 рублі 88 капеек

Пажадана, каб ахвяравальнікі называлі поўнасцю сваё прозвішча, імя і імя па бацьку.




Другі нумар часопіса «Полацак» пачынаецца з выказванняў вядомых беларускіх пісьменнікаў Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Сяргея Законнікава і доктара гістарычных навук, прафесара Міхася Ткачова, якія зычаць гэтаму новаму беларускаму выданню трывалых поспехаў. Бясспрэчна, чытача зацікавяць успаміны Яна Станкевіча «Узыходзіла сонца незалежнае Беларусі», надрукаваныя з нагоды Дня незалежнасці Беларусі, абвешчанага 25 сакавіка 1918 года.

На праблемы беларусізацыі, курс на якую быў афіцыйна абвешчаны на другой сесіі ЦВК БССР у ліпені 1924 года, звяртае ўвагу Леанід Лыч у сваім артыкуле «Беларусізацыя».

У часопісе змешчаны пачатак публіцыстычнай аповесці-хронікі ў дыялогах «Свечкі на дзяды», якую напісаў Эрнэст Ялугін. У рубрыцы «Далёкае і блізкае» выступае з артыкулам «Пачатак» Міхась Белямук, у якім расказвае пра жыццё беларусаў у эміграцыі.

Пра стварэнне і дзейнасць мінскага гарадскога клуба «Спадчына» чытачы даведаюцца з нарыса Святланы Белай «Слова пра «Спадчыну». Тут жа змешчаны і зварот клуба «Спадчына» да суайчыннікаў. Праблемам чарнобыльскай катастрофы прысвечаны артыкул Ірыны Кісялёвай «Чарнобыль; спроба аналізу сітуацыі», пачатак якога надрукаваны ў нумары. Ідэю служэння Бацькаўшчыне, праблемы патрыятызму ў гісторыі грамадскай думкі беларускага народа развівае ў сваім артыкуле «Вытокі нацыянальнай свядомасці» Анатоль Белы.

У часопісе змешчаны шэраг ілюстрацый да яго асноўных матэрыялаў.

## *Аб'ява*

## *«Наша слова»*

можна выпісаць у любым аддзяленні «Саюздруку». Усяго за 20 капеек 4 нумары газеты ў месяц.

— Гэта інфармацыя аб культурным жыцці беларусаў у рэспубліцы і за мяжой.
— Арыгінальныя інтэрв'ю з неардынарнымі асобамі.
— Гісторыя. Радавод.
— Пытанні мовы.
— Літаратурныя навіны і многае іншае ў канцэнтраванай форме.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

Рэдактар Эрнэст Ялугін
Сябры калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека (нам. рэдактара), Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.
Адказны сакратар Анатоль Сілянкоў.

Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 5.174 паасобнікаў. Заказ 2449. Індэкс 74975.